# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (259) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 28 СТУДЗЕНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

Максім ТАНК

* * *

Я піў рачную плынь кіпучую,
Шум хваляў дальніх берагоў,
Піў на сустрэчах, на заручынах
Віно з біклагаў і рагоў.

Але нідзе такога смачнага
Не каштаваў напітку я,
Як той, якім з далоняў матчыных
Паіла Беларусь мая.

Як той, які з лістка кляновага,
З выбоінаў, з барозен піў,
З трыпутніку зялёных конавак
Знясілены ˘ дарозе піў.



ЗІМОВЫ КРАЯВІД

Фота: Г. Рагазінскі

## БЕЛАСТОЦКІ ГАДАВІК

З пачаткам новага года выйшаў з друку трэці ўжо Статыстычны гадавік Беластоцкага ваяводства 1961 г. У Гадавіку знаходзім важнейшыя інфармацыі аб развіцці гаспадарчага, грамадскага і культурнага жыцця ў гадах 1955—1960 на Беласточчыне. Гадавік падае таксама параўнанні гэтых галін да агульнакраёвых. У некаторых выпадках параўнанні сягаюць года 1950.

Гадавік складаецца з двух частак: першая ў апісальнай форме ілюструе некаторыя выбраныя гаспадарчыя пытанні Беласточчыны за перыяд мінуўшай пяцігодкі. Другая — табліцы, якія паказваюць даныя з метэаралогіі, адміністрацыйнага падзелу і насельніцтва, працы, інвестыцый, прамысловасці і рамясла, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі і лясніцтва, транспарту і сувязі, таварнага абароту і цэн, камунальнай і жыллёвай гаспадаркі, асветы, культуры і мастацтва, аховы здароўя і спорту, фінансаў (тэрытарыяльныя бюджэты, крэдыты насельніцтву, ашчаднасці). Гадавік умяшчае 260 такіх табліц і мае 371 старонку. Каштуе 25 злотых.

Заказы на Гадавік трэба складаць у Аддзеле статыстыкі Прэзідыум ВРН у Беластоку.

## ЛЁН

Уладзімір Бірэцкі з вёскі Ляшукі (Гайнаўскі павет) закантрактаваў 0,80 га ільну. Атрымаў 470 кг валакна, за якое заплацілі яму 22.800 зл. плюс за насенне 2.400 зл.

Антон Пецюк з Есяновай Даліны (Сакольскі павет) закантрактаваў на валакно 2 га. Здаў 980 кг. валакна на суму 56.000 зл.

Прыклады на тое, як аплачваецца сеяць лён.

Ільнянае валакно вельмі патрэбнае нашай тэкстыльнай прамысловасці. Прадпрыемствы абароту ільном купляюць кожную колькасць ільнянога валакна і ўсё яшчэ адчуваецца яго недахоп. Трэба ведаць, што наша краёва прадукцыя ільну далёка не задавальняе тэкстыльнай прамысловасці. Дзяржава кожны год дадаткова купляе за граніцай 13.000 тон ільнянога валакна. 13 000 тон — які гэта магутны рэзерв даходу для сялян, і то высокага даходу. Прыклады вышэй паказваюць, што даход атрыманы з вырошчвання і апрацоўкі ільну значна перавышае даход з апрацоўкі іншых культур.

Вырошчванне — вырошчваннем, але ручная апрацоўка ільну на валакно напэўна не прыцягвае людзей. Сяляне зараз не злюбілі ручной апрацоўкі ільну, якой займаліся іхнія бабкі і прабабкі. Хоць і менш грошай, абы толькі не церці, не трапаць — хай гэта робяць машыны — разважаюць людзі. Іменна машыны. І калі б мець машыны да сушэння, трэння і трапання — тады іншая рэч. Маючы гэта на ўвазе, установы, зацікаўленыя ў шырэйшым вырошчванні ільну на валакно, плануюць ужо ў гэтым годзе выпрадукаваць і прадаць сялянам большую колькасць машын для паўмеханічнай апрацоўкі ільну (сушарні, церніцы, трапачкі). Дагэтуль было іх мала і каштавалі яны дарага.

Аднаму, аднак, заўсёды цяжка будзе купіць усе патрэбныя машыны. Таму плантатары ільну ў данай мясцовасці павінны аб'ядноўвацца ў гурткі апрацоўкі ільну і купляць машыны супольна. Так ужо зрабілі, напрыклад, плантатары

(Працяг на стар.5)

МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ

## ІНТЭРВ'Ю З УНУЧКАМІ БАГУШЭВІЧА

Так ужо звычайна бывае, што мы цікавімся сваякамі выдатных пісьменнікаў, калі б нават яны і не маглі шмат новага паведаміць нам аб сваім слаўным продку. А сутыкненне з раднёй пісьменніка — гэта ж не толькі хвалюючае перажыванне; такая сустрэча дазваляе, зразумела, у пэўнай ступені аднавіць атмасферу, у якой ён жыў і тварыў, асабліва ў тым выпадку, калі размаўляем з яго блізкімі сваякамі. І вось мне пашанцавала. Нядаўна я наведаў унучак Францішка Багушэвіча, пражываючых у Польшчы. Плённай аказалася гэтая сустрэча. Нейк бліжэйшым стаў светлы воблік аўтара «Дудкі беларускай», у больш выразных абрысах з'явіліся перад вачыма тыя падзеі, якія адбываліся ў кушлянскім доме сям'і Багушэвічаў пасля смерці паэта. Хачу сёння падзяліцца з чытачамі «Нівы» сваімі ўражаннямі з пабыўкі ў Станіславы Тамашэўскай, пражываючай у Гіжыцку і ў Канстанцыі Пшэднікоўскай — жыхаркі Ольштына.

Пасля ўдакладнення адраса Станіславы Тамашэўскай я напісаў да яе пісьмо, на якое неўзабаве атрымаў адказ. Унучка Багушэвіча сардэчна запрашала мяне прыехаць у Гіжыцка, выказваючы адначасова сваё задавальненне, што «Ніва» зацікавілася лёсам самых блізкіх сваякоў яе дзеда. Наша сустрэча адбылася ў памяшканні С. Тамашэўскай. Дом, дзе яна пражывае, знаходзіцца ў цэнтры Гіжыцка, у адным з жывапіснейшых куткоў гэтага прывабнага курортнага горада. Унучка паэта прыняла мяне вельмі гасцінна. Неўзабаве на стале з'явіліся чорная кава і бабка дамашняга вырабу. Праўда, я аднекваўся, тлумачачы, што нядаўна вячэраў, аднак у адказ пачуў словы: «Гэта так ужо ў нас прынята, гэта кушлянскі звычай. Мой дзед і бабуля заўсёды цешыліся кожным госцем, з той толькі розніцай, што ў той час у модзе быў шыпячы самавар, і што там гаварыць — мая бабуля была ўмелай гаспадыняй, не то што я.»

Наша размова пачалася ад абмяркоўвання штодзённых спраў і турбот, якіх нямала ў кожнага чалавека. С. Тамашэўская наракала на самотніцтва, якое ёй надта надакучыла. «Мае дзеці, — адзначыла яна, — абзавяліся ўжо сем'ямі і рэдка мяне наведваюць. Лешэк жыве аж у Шчэціне, ён працуе па санітарнай частцы ў якасці тэхніка, а Станіслава — магістр хіміі — настаўнічае ў Варшаве. У яе раскошнае дзіцё — хлапец» — не без гордасці падкрэсліла С. Тамашэўская.

— Муж мой даўно ўжо не жыве, а я зараз працую ў камунальным прадпрыемстве, — дадала яна.

Добра сталася, што перад выездам у камандзіроўку я забраў з сабою «Нарысы беларускай літаратуры XIX ст.» Сцяпана Майхровіча. Чытачы гэтай каштоўнай працы напэўна прыпамінаюць сабе здымак сям'і Багушэвіча. Ён змешчаны побач з 144 старонкай. І вось гэты здымак аказаўся для ўнучкі Багушэвіча прыемнай нечаканасцю. Аказваецца, яна лічыла яго даўно загубленым і якая ж была радасць С. Тамашэўскай, калі ізноў магла ўзірацца ў твары сваіх найбліжэйшых: дзеда, бабкі, цёці Туні, бацькі — яшчэ хлапчука, Анны Галееўскай — адданага прыяцеля сям'і Багушэвічаў. На жаль, свайго дзеда — Францішка Багушэвіча

(Працяг на стар.3)

## У СІДРЫ

ГС у Сідры, Сакольскага павета, невялікая. А ўсё ж такі, ад даўжэйшага часу, яна штогод выпрацоўвае немалыя зыскі. У 1960 годзе ГС выпрацавала 135 тысяч чыстага зыску, а ў мінулым годзе гэты зыск павялічыўся да 180.000.

Жыхары Сідры — гэта земляробы. Але з таго часу, калі ў Сідры пралажана чыгунку і пабудавана станцыю, пасёлак шмат ажывіўся. Беручы гэта пад увагу праўленне ГС пастанавіла пабудаваць адпаведную сталовую, дзе людзі маглі б атрымаць абед.

Бар ужо пабудаваны. Незадоўга ў ім будзе арганізавана кухня і сталовая.

Дзякуючы зыскоўнасці працы, ГС у Сідры мае магчымасць палепшыць умовы мясцовага гандлю (аднаўляючы крамы, закупоўваючы адпаведнае абсталяванне і г.п.) (вб)

# ЗША не рэзыгнуюць з гонкі ўзбраенняў

**Зараз знешнія муры Вашынгтонскага кангрэсу падвяргаюцца рамонту. Нягледзячы на дэфіцыт, які складае сем мільярдаў долараў у сёлеташнім бюджэце, хапіла яшчэ грошай на маляванне будынку, у якім знаходзіцца сядзіба найвышэйшых органаў ЗША.**

**Аднак у адсвежаных мурах Кангрэсу і надалей пануе гэта ж самая старая, кансерватыўная атмасфера. Хаця ўжо трэці тыдзень працягваюцца пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў, няма ніякіх прыкмет, якія сведчылі б аб злагаджэнні амерыканскага курсу замежнай палітыкі. Сітуацыя тут гаворыць нам аб чымсьці зусім іншым; кожны дзень дае нам прыклады абвастрэння амерыканскага замежнага курсу, яго мілітарызацыі.**

**Старым, халоднаваенным духам характарызаваўся зварот прэзідэнта Кенедзі «Аб стане дзяржавы», з якім ён выступіў у першы дзень працы Кангрэсу. Праўда, Кенедзі з жалем адзначаў, што свет падзелены, і што гэты падзел заключае ў сабе патэнцыяльную небяспеку вайны, аднак зараз жа ўсю віну за гэтую сітуацыю зваліў на камунізм. Прэзідэнт ЗША ні адным словам не заклеймаваў каланіялізм і сваіх саюзнікаў, якія прапаведваюць прынцыпы рэваншу, а тым самым усеагульнай вайны. У выступленні Кенедзі быў толькі адзін заклік, накіраваны ў адрас амерыканскага народа, ад якога прэзідэнт патрабуе новай ахвярнасці, «неабходнай для барацьбы супроць камунізма».**

**Некалькі дзён пазней быў абвешчаны ў Вашынгтоне новы бюджэтны зварот, які шырэй паясняў урадавую праграму дзейнасці ў 1962/63 гаспадарчым годзе. Амерыканскія інфармацыйныя агенцтвы шумна рэкламавалі гэты зварот, як прадказанне «павышэння міжнароднага значэння ЗША» і «штуршок для гаспадарчай экспансіі». Мы не здзіўляемся гэтай рэкламай, таму што, як гэта звычайна бывае, разыходзіцца тут аб затушоўванне недахопаў прапанаванага тавару.**

**Новы бюджэт, калі ён будзе зацверджаны Кангрэсам, акажацца найбольшым у гісторыі ЗША. З 93 мільярдаў долараў, пачэрпнутых з гаспадарчых даходаў, урад ЗША хоча прызначыць 52,7 мільярдаў долараў на далейшыя ўзбраенні і ўтрыманне арміі. Другія ж галіны — сацыяльная гаспадарка, асвета, культура і навука — маюць задавеліцца толькі невялікімі сумамі.**

**Хаця творца тэорыі «халоднай вайны» і гонкі узбраенняў Дж. Ф. Далес ужо звыш двух год не жыве, аднак яго дух і надалей пануе ў амерыканскім Пентагоне. Усё гэта супярэчыць дэкларацыям Кенедзі аб быццам бы мірных імкненнях урада Злучаных Штатаў, аб патрэбе размоў аб разбраенні і забароне ядзерных выпрабаванняў. Варта яшчэ дадаць, што новы бюджэт ЗША абапіраецца на аптымістычных прадпасылках і таму мае мала рэальныя асновы. Можна дасягнуць высокіх даходаў, калі гаспадарка будзе інтэнсіўна развівацца, калі прамысловасць не падвергнецца рэцэсіі, калі ў сельскай гаспадарцы ўдасца паменшыць субвенцыі, і калі ўзрастуць паштовыя аплаты. Значна больш ёсць гэтых «калі». А ўсе яны падкопваюць рэальнасць амерыканскага бюджэту. Хаця Вашынгтон не прадбачвае ў гэты раз дэфіцыту, аднак нам здаецца, што такі «цуд» з'яўляецца мала праўдападобным. Больш праўдападобным здаецца, што ўвесь цяжар упадзе на звычайных амерыканскіх плацельшчыкаў, якія будуць плаціць значна большыя падаткі, каб пакрыць кошты ўзбраенняў.**

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ВЕСТКІ з БССР

# ЛЕКЦЫІ ЧЫТАЮЦЬ ВУЧОНЫЯ

Вучоныя Акадэміі навук БССР і навуковыя супрацоўнікі вышэйшых навучальных устаноў Мінска сістэматычна прапагандуюць матэрыялы гістарычнага XXII з'езда КПСС.

Праўленне Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў накіравала ў вобласці 165 лектараў. Многія з іх ужо выступілі перад працоўнымі па некалькі разоў. Доктар гістарычных навук І. С. Краўчанка, напрыклад, пабываў у Гродзенскай вобласці. Ён прачытаў лекцыі «Камунізм — светлая будучыня чалавецтва». Кандыдат юрыдычных навук Ю. В. Шабанаў выступіў з лекцыяй «Марксізм - ленінізм аб дыктатуры пралетарыяту і перарастанні дзяржавы рабочага класа ў агульнанародную».

Шмат хлебаробаў сельгасарцелі «Камінтэрн» Магілёўскага раёна прыцягнула лекцыя «Глебы Беларусі і шляхі павышэння іх ураджайнасці». Яе прачытаў доктар сельскагаспадарчых навук А. Г. Мядзведзеў.

Кандыдат геаграфічных навук В. А. Навіцкі выступае з лекцыяй «Электрыфікацыя — стрыжань стварэння эканомікі камунізма». З цікавасцю праслухалі яе будаўнікі і шахцёры Салігорскага калійнага камбіната.

З лекцыямі аб гістарычных рашэннях XXII з'езда КПСС выступаюць таксама навуковыя супрацоўнікі вышэйшых навучальных устаноў Гомеля, Віцебска, Гродна і іншых гарадоў рэспублікі.

### УПЕРШЫНЮ Ў КРАІНЕ

Хімікі Магілёўскага завода штучнага валакна ў творчай садружнасці з вучонымі Усесаюзнага навукова - даследчага інстытута штучных валокнаў і Цэнтральнага навукова - даследчага інстытута шэрсці ўпершыню ў краіне асвоілі выпуск дробнаразважнога жгутавага штапельнага валакна, прызначанага для пераапрацоўкі на спецыяльных тэкстыльных машынах - канверах.

Новаўвядзенню папярэднічала падрыхтоўка. На прадзільнай машыне зменена схема запраўкі нітак. Апараты адгонкі серавуглероду прыстасаваны для адначасовай апрацоўкі трох, а не двух штапельных жгутоў. Удасканалены аддзелачныя агрэгаты.

Гэтыя і іншыя новаўвядзенні дазволілі на дзеючым тэхналагічным абсталяванні выпускаць штапельнае валакно вагой 40 грамаў у адным пагонным метры жгута — у тры разы менш, чым раней. Пры гэтым усе валокны ў пучку цяпер паралельныя паміж сабой, маюць добрую эластычнасць і рассыпістасць (аддзяляльнасць адно ад аднаго). Гэта папярэдзіла паяўленне лямцавасці ў валакне, ліквідуе на тэкстыльных прадпрыемствах такія працаёмкія аперацыі, як рэзка жгутоў па даўжыні, трапанне і часанне валакна.

К канцу гэтага года прадпрыемства поўнасцю пераходзіць на выпуск дробнаразважнога жгутавага штапельнага валакна.

### АНСАМБЛЬ ТРАКТАРАБУДАЎНІКОЎ

Добрай славай на Мінскім трактарным заводзе карыстаецца самадзейны танцавальны калектыў. У ім цяпер 70 маладых рабочых і работніц. За тры гады свайго існавання ансамбль заваяваў аўтарытэт не толькі ў працоўных г. Мінска, але і ў рэспубліцы.

У пастаноўцы ансамбля— 14 танцаў народаў СССР і краін народнай дэмакратыі. Ён 95 разоў выступаў у канцэртамі ў Мінску, Рызе, Брэсце, Барысаве, Чэрвені, Лагойску, Плешчаніцах, Капылі, Салігорску, а таксама ў саўгасах і калгасах рэспублікі.

У мінулым годзе заводскія танцоры выступалі ў Маскве, на інструментальным заводзе «Калібр», аўтазаводзе імя Ліхачова, на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР, у Цэнтральным парку культуры і адпачынку імя А. М. Горкага. Усюды гледачы цёпла сустракалі выканаўцаў народных танцаў.

За дасягнутыя творчыя поспехі калектыву ансамбля танца Мінскага трактарнага завода прысвоена назва народнага ансамбля танца.



**Перадавыя людзі сямігодкі БССР. Кукурузаводы Уладзімір Кот (злева) з калгасу «Кастрычнік» Гомельскай вобласці і Цярэнці Радчанка з калгасу імя Леніна Магілёўскай вобласці, якія сабралі звыш 1200 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы з кожнага апрацаванага імі гектара.**

# БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

*

**15.І. наведалі Беласток намеснік старшыні Савета дзяржавы Балеслаў Пададворны і сакратар Савета дзяржавы Юльян Гарадэцкі.**

*

**16 і 17 студзеня ў Беластоку адбыўся агульнапольскі агляд вясковых танцавальна-разрыўковых джазавых калектываў.**

*

**19 студзеня ў Клубе міжнароднага друку і кнігі ў Беластоку адбылася сустрэча з дзеячамі Польскай Рабочай партыі.**

*

**20 студзеня ўступіў у дзейнасць Ваяводскі анкалагічны асродак. Атрымаў ён самае сучаснае абсталяванне і з'яўляецца 6-тым гэтага роду асродкам у краіне. Адкрыў Асродак пасол Зямлі Беластоцкай міністр здароўя др Ежы Штахельскі.**

*

**21 студзеня ГП БГКТ гасціла дэлегацыю Палітэхнічнага інстытута ў Мінску, якая на запрашэнне Вячэрняй інжынернай школы ў Беластоку прыбыла ў наш горад.**

*

**23 студзеня з нагоды святкавання XX гадавіны ППР у зале «Ягеленіі» у Беластоку адбыўся вялікі мітынг жыхароў горада.**




Налепка кінуў у агонь сухую галінку і доўга ўглядаўся ў цемру, якая з усіх бакоў падступала да вогнішча.

І вось ён ізноў між салдат. Калі яны пакідалі Капцовічы, людзі яшчэ моцна спалі. Налепка ўспомніў пра Бэнку, які моцна пахрапваў у каморцы, і на сэрцы яго пацяплела. Ён ахоўвае сон Бэнкі і іншых хлапцоў, і яны яму вераць. Без іх ён не ўяўляў цяпер свайго жыцця і падумаў, што яму было б вельмі цяжка, каб ён адзін перайшоў да партызан. Яго замучыла б сумленне, што ён пакінуў іх і паклапаціўся толькі пра сябе. Што было б з імі? У чые рукі трапілі б яны?

Налепка добра разумеў, што прыцягнуць хлапцоў да супольнай барацьбы куды цяжэй, чым стаць героем самому. І ўсё ж ён выбраў першае.

Падзьмуў вецер, і з дрэў паляцела апошняе лісце. Да вогнішча падышоў Налепкаў конь і спакойна пачаў скубсці сухую калючую траву. Вогнішча ўжо дагарала. У цішы ночы чутно было раўнамернае хрумсценне коней, якое час ад часу перарывалася пырханнем. Раптам конь перастаў жаваць, узняў галаву і стаў, як скамянелы.

Налепка ўскочыў з месца, павярнуўся направа і пачуў, як трашчыць галлё і хлопае ў лужынах вада. Неўзабаве з цемры вынырнула каржакаватая постаць лесніка, з якім ён ужо два разы сустракаўся, за ім крочыў высокі, плячысты мужчына ў тужурцы і высокай папасе. Незнаёмы нахіліўся да лесніка, нешта прашаптаў яму і пакрочыў проста да Налепкі.

— Сабураў, — сказаў ён прыглушаным басам, сціскаючы Налепкаву далонь. — Даруйце, я крыху спазніўся.

Ён дастаў з кішэні пачак «Беламору» і працягнуў Налепку:

— Курыце?

— Толькі люльку. Але ад вашых не адмоўлюся.

Святло запалкі выхапіла на момант з цемры аблічча генерала Сабурава. Налепка звярнуў увагу на мужныя, суровыя рысы яго твару і спакойны позірк блакітных вачэй. Вось ён, легендарны герой, перад якім дрыжыць вораг.

Сабураў закурыў папяросу, кінуў у вогнішча сухую галінку і агледзеўся.

— Не вельмі зручна, — усміхнуўся ён, паказваючы на вывернуты пень, — але можна сесці, капітан.

Калі яны селі побач, Сабураў кінуў на зямлю недакураную папяросу і сказаў:

— Дык выходзіць, што мы цяпер з вамі суседзі.

Пагледзеўшы на Налепку з-пад сваіх густых бялявых брывей, ён дадаў:

— Вельмі рад, што пазнаёміўся з вамі асабіста, таварыш Рэпкін. Шкада толькі, што не маю часу шчыра пагутарыць з вамі бліжэй. Думаю, што вы на мяне не пакрыўдзіцеся, калі я скажу вам, што з намі вам будзе клопату больш, чым з мясцовымі атрадамі.

— На тое і мы тут, таварыш генерал.

Сабураў выцягнуў ногі, паклаў на калені рукі і звярнуўся да Налепкі:

— Перш за ўсё справа ідзе пра тое, каб нашы дзеянні не сустрэлі адпору з боку вашых салдат.

Налепка крыху падумаў і ціха сказаў:

— Гэта самае галоўнае, таварыш генерал.

— Я ведаю пра вас, таварыш Рэпкін. Але скажыце, вы паручаецеся за сваіх? Ведаеце, партызанская вайна мае свае цвёрдыя законы. Трэба, напрыклад, мініраваць мост, а на варце стаіць славак. А партызан павінен выканаць загад абавязкова.

 

# НАВАГОДНІЯ ЁЛКІ

## У ВАРШАВЕ

Дырэктар Прамыслова-гаспадарчага праўлення «BETESCA» Пятро Ластаўка надта адмыслова сарганізаваў дзецям сваіх працаўнікоў навагоднюю ёлку. Гэтая ўрачыстасць для наймалодшых адбылася 12 студзеня г.г. у зале лялечнага тэатра «Гулівер» у Варшаве. З вялікім зацікаўленнем і хваляваннем дзеці глядзелі спектакль «Снегавай казкі». Найбольш прыемнай маленькім гледачам была тая хвіліна, калі Дзед Мароз, закончыўшы сваю ролю на сцэне, сышоў у залу дзеля ўручэння дзецям падаркаў. На просьбу Дзеда Мароза найбольш адважныя дзеці дэкламавалі вершы і спявалі песні. Потым пад ззяючай рознакаляровымі агнямі ёлкай Дзед Мароз раздаў падаркі, за што дзеці абяцалі добра вучыцца і быць паслухмянымі ў хаце. **В. Ш.**

## У БЕЛАСТОКУ

14 студзеня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбылася беларуская ёлка для дзяцей актывістаў нашага таварыства. Дзеці вельмі прыемна правялі вечар. Многа з іх выступала з дэкламацыяй вершаў беларускіх, польскіх і рускіх паэтаў. Некаторыя «малышы» прыгожа выконвалі песні. Дзед Мароз усіх дзяцей абдзяліў багатымі пачкамі. мх.

## У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

14 студзеня ў пачатковай школе ў Дубічах Царкоўных адбылася навагодняя ёлка, у час якой вучні чыталі беларускія, рускія і польскія вершы. Тут спяваліся песні і было наладжана некалькі скетчаў у форме гумару і сатыры. Трэба адзначыць, што ў гэтым годзе ёлка была вельмі прыгожая. Пасля артыстычнай часткі адбылася раздача падарункаў для вучняў. Навагодняя ёлка закончылася танцавальнай вечарынай, на якой вучні і іх бацькі танцавалі розныя беларускія танцы, у тым ліку «Лявоніху», «Чабарок». На акардэоне іграў гарманіст Іван Марчук. Школа ў час ёлкі і вечарыны была перапоўнена да апошняга месца жыхарамі вёскі і аколіцы.

**Мікалай Панфілюк**

# Малады настаўнік

**(Працяг са стар. 5)**

повы» (многа год з'яўляецца ён прадаўшчыком у мясцовай краме) Фёдар Кужалеўскі, які з'яўляецца ганаровым членам бацькоўскага камітэта.

Настаўнік Снарскі вельмі зжыўся з моладдзю, і таму ў моладзі ён заўсёды знаходзіць падтрымку ў кожнай прышкольнай працы. Але вельмі любяць і паважаюць яго ўсе жыхары Круглага Ляска і блізляжачых вёсак. А ёсць жа за што любіць і паважаць гэтага чалавека. Вось канкрэтныя прыклады — настаўнік не агранічваецца толькі да спраў чыста школьных, але выходзіць насустрач справам грамадскім. У Круглым Ляску была дрэнная вуліца, кусок яе быў надта вузкі. Загадчык Снарскі арганізаваў грамадскі чын, да якога, зразумела, і сам ўключыўся, і вуліцу ў вёсцы выпраставана і пашырана, а таксама зажвіравана ямы. Снарскі многа дапамог са сваімі вучнямі пры рамонце дарогі ў Паповай Даліне (дарога вядзе з Сушчы ў Новую Волю)...

Хаця памяшкання на вядзенне ўрокаў у асноўным хапае, аднак жа школа ў Круглым Ляску адчувае недахоп памяшкання на вядзенне заняткаў, звязаных з палітэхнізацыяй у навучанні. Але і адносна вырашэння гэтай праблемы сціплы загадчык знайшоў выхад. У кастрычніку мін. года адбыўся справаздачна - выбарчы сход мясцовай ячэйкі партарганізацыі. У прысутнасці прадстаўніка ПК ПАРП у Беластоку сябра Снарскі паставіў справу неабходнасці апякунства нейкай установы або прадпрыемства над школай. Неўзабаве апякунства над школай абняў Раён эксплуатацыі публічных дарог у Беластоку. На пачатку лістапада гэта ўстанова пабудавала школе ў Круглым Ляску драўляны гаспадарчы будынак. Хаця ён невялічкі, але палову яго загадчык намераны прызначыць на сарганізаванне майстэрняў для ручных работ.

Клапатлівасць Эдмунда Снарскага аб справах школьных і грамадскіх — у прыклад усім маладым настаўнікам.

**М. КУРАШ**

# На сходзе ў Чаромусе

Вечарам 5 студзеня ў школе ў Чаромусе сабралася звыш 30 асоб моладзі: хлопцаў і дзяўчат. Пасля рэферата аб працы Таварыства, Надзея Шатыловіч прачытала справаздание аб працы гуртка, падкрэсліваючы слабую апеку аддзела над гуртком і іншых цяжкасцях, якія трэба было пераадольваць. Заявіла, што моладзь Чаромухі не заламалася і сваімі ўласнымі сіламі падрыхтавала «Паўлінку» для пастаноўкі ў сваім асяроддзі. Потым у шырокай дыскусіі закраналіся справы выпазычання касцюмаў для пастаноўкі п'есы, пакупкі радыё з адаптарам, беларускіх кніжак, якія можна было б браць у аддзеле ў Гайнаўцы, аб часцейшым наведванні гуртка. У заключэнні выбралі новае праўленне гуртка ў складзе: Надзея Шатыловіч — старшыня, Павал Ляшчынскі — намеснік старшыні, Люба Панасюк — сакратар, Надзея Зіневіч — скарбнік і Мікалай Курдзялевіч — член. Гурток зараз налічвае 26 членаў. Пасля сходу нававыбранае праўленне засталося на сваё першае пасяджэнне, на якім быў апрацаваны план працы гуртка на першы квартал 1962 года. Пастанавілі ў першым квартале: 1). 7.І. даць выступленне «Паўлінкі» у сваёй вёсцы два разы: у дзень для дзяцей і вечарам для дарослых. 2). Паехаць з гэтай пастаноўкай у Дашы, Рагачы, Сухавольцы, Кляшчэлі і станцыю Чаромуха. 3) Арганізаваць забавы, перапляцецыя песнямі і дэкламацыяй вершаў. 4). Пабольшыць колькасць падпісчыкаў «Нівы» і прычыніцца да распаўсюджання беларускага календара. 5). Прасіць, каб аддзел сарганізаваў у вёсцы Чаромуха курс крою і шыцця або курсы матацыклавыя, і каб «Лявоніха» у лютым наведала Чаромуху.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка

# Аб нашых жыхарах

Вельмі кепска гаспадарам у той вёсцы, дзе няма каваля. А вось у Новым Ляўкове няма бяды з тым. Яны маюць дзе падкаваць каня, падрамантаваць воз, сашнік да плуга, ці што іншае. Наш аднавясковец каваль Кастусь Скепка выконвае ўсе гэтыя працы. Гэта добры каваль. З яго працы ўсе ў вёсцы задаволены

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

# У Гайнаўцы смачна ядзяць

Добрую працу праводзіць праўленне Гайнаўскай ПСС. Выкарыстоўваючы сваіх спецыялістаў, Гайнаўская ПСС арганізуе для жыхароў горада паказы рацыянальнага харчавання. У мінулым годзе ў Гайнаўцы адбылося 156 такіх паказаў. Яны карысталіся вялікай папулярнасцю. На іх пабывала каля 4 000 зацікаўленых, дзе яны пазнаёміліся з метадамі рацыянальнага харчавання.

Сёлета ў Гайнаўцы адбудзецца 144 такіх паказаў. Несумненна, што гэтыя паказы дапамогуць Гайнаўскім гаспадыням лепш і смачней рыхтаваць ежу. (вб)

# Ахоўвайце птушкі і звяры!

Гэты заклік асабліва важны ў зімовы час таму, што птушкі і звяры павінны шукаць сабе ежы часта блізка памяшканняў людзей. А ёсць людзі, якія толькі стараюцца ставіць сеткі на птушкі і звяры.

Аднак большасць людзей — гэта сумленныя людзі. Вось ідзем ля школы ў Кленіках ці Ляневе, тут бачым кармушкі. Значыцца, кіраўніцтва школы звяртае ўвагу вучням на так важную праблему. Ідзем каля хаты Ануфрыя Наумюка ў Кленіках, бачым рассыпленыя зярняты збожжа для птушак. Варта браць прыклад.

**Аляксандр Закройшчык**
Кленікі

# Вельмі цікавая, купіце!..

Вельмі цікавая, купіце! Прыкладна такімі словамі прадаўшчыца газетнага кіёску ў Міхалове (Беластоцкі павет) Аліцыя Амброжэй заахвочвае людзей да пакупкі «Нівы». З усіх прадаўшчыкоў газетных кіёскаў на Беласточчыне за 1961 год яна найбольш прадала «Нівы» і гэтым самым значна прычынілася да яе папулярызацыі. За гэта Аліцыя Амброжэй атрымала ад рэдакцыі штотыднёвіка «Ніва» рэчавыя ўзнагароды. Найлепшай прадаўшчыцы нашага часопіса жадаем яшчэ лепшых поспехаў у 1962 годзе. **(мх)**

# КІНО

**Праграма ад 29.І. да 4.ІІ.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Expo 58" (radz.) 30.I.—1.II.

**Кляшчэлі**
„Perła" (meksyk.) 30.I.—1.II.

**Нарва**
„W masce i bez maski" (japoński) 31.I.—4.II.

**Нараўка**
„Korsarze Pacyfiku" cz. II. (radz.) 31.I.—4.II.

**Чаромуха**
„Legenda o lodowatym sercu" (radz.) 30.I.—1.II.

**Чыжы**
„Wyzwanie" (wł.) 31.I.—4.II.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Бoцькі**
„Wrzesień 1939" (polski) 31.I.—4.II.

**Браньск**
„Flip i Flap na bezludnej wyspie" (franc.) 30.I.—1.II.

**Орля**
„Korsarze Pacyfiku" cz. I. (radz.) 31.I.—4.II.

**Райск**
„Miłość należy cenić" (radz.) 31.I.—4.II.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Człowiek ze słomy" (włoski) 30.I.—1.II.

**Міхалова**
„Żywi bohaterowie" (radz.) 30.I.—1.II.

**Супрасль**
„W pięknej Indonezji" (radz.) 30.I.—1.II.

**Чорна Весь**
„Ciao, ciao Bambino" (włoski) 30.I.—1.II.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Człowiek ze słomy" (włoski) 30.I.—1.II.

**Мілейчыцы**
„Romeo, Julia i ciemność" (czeski) 30.I.—1.II.

**Нурэц**
„Romeo, Julia i ciemność" (czeski) 30.I.—1.II.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Skrzynki na start" (ang.) 30.I.—1.II.

**Сухаволя**
„Kongo walczy" (radziecki) 30.I.—1.II.

**Янаў**
„Mein Kampf" (szwedzki) 30.I.—1.II.

Увага! У Гродзіску, Навасадах, Ліпску, Новым Двары, Ружаньымстоку, Шудзялаве ў днях ад 30.І. да 2.ІІ. кінасеансаў не будзе.

**(Працяг са стар. 3)**

У Сашы задрыжалі калені. Лоб яго пакрыўся халодным потам, а вусны, нібы ў дзіцяці, скрывіліся ад страху.

— Я ніяк не мог да вас прыйсці, паверце мне! Бульбаўцы мяне перахапілі.

Доўгі дубовы стол, што стаяў пасярод пакоя, палохаў яго. І ў Оўручы стаяў такі самы стол. Яго звязалі, у рот запхнулі кішку, і агідная салёная вада палілася ў яго страўнік. Пасля яго лупцавалі гумовай палкай, пакуль не страціў прытомнасці. Гарачае жалеза сіпела на яго далоні, і калі нарэшце адвязалі, з'явіўся Браўніс. Ён гаварыў з ім спакойна, нібы нічога і не здарылася, і Саша падумаў тады: ён не дазволіць катаваць яго. Ён згаджаўся на ўсё, абяцаў горы, даў распіску, што будзе правакатарам. Пасля гэтага яны больш ніколі не сустракаліся. Саша толькі прынёс ім ліст ад Аўсеенкі, хоць не ведаў нават, што ў ім напісана. А потым салдаты Налепкі адвялі яго ў Пакалова. Навошта? Ён і сам гэтага не ведаў.

Дубовы стол!.. Амаль такі самы дубовы стол вырваў з яго ўсю адвагу, увесь энтузіязм. Гераізм быў справай значна цяжэйшай, чым ён уяўляў сабе, а фізічны боль наганяў на яго жах.

— Паверце мне, пане обер-лейтэнант, — сказаў ён, пазіраючы ўмольна ў вочы Браўніса.

94

— Добра, — задумаўся Браўніс, — магчыма, што ты і сапраўды ішоў да сваёй прыяцелькі. А цяпер ты пойдзеш у лес, — сурова працягваў Браўніс, — і скажаш партызанам, што ўцёк з гестапа. Гэтую справу мы арганізуем. Праз дзевяць дзён я чакаю цябе ў штабе.

Браўніс напісаў на паперы некалькі радкоў і акінуў Сашу пільным позіркам.

— Даведаешся, хто такі Рэпкін. Але не жыць табе, — пагразіў Браўніс, — калі не вернешся. Тваю распіску мы адразу адправім партызанам, і яны расправяцца з табой як з агентам гестапа. Разумееш?

Саша цяжка ўздыхнуў, але праз хвіліну ў вачах яго засвяцілася іскра надзеі.

— Калі выканаеш загад, — сказаў Браўніс, — пойдзеш са сваёй прыяцелькай у Кіеў. Работа вам будзе забяспечана.

Прыжмурыўшы вочы ён дадаў:

— Калі ты прызнаешся ва ўсім партызанам і пяройдзеш на іх бок, я адразу паведамлю, што ты працуеш на нас. Разумееш?

Сашу зрабілася раптам душна. Словы Браўніса знішчылі апошнюю яго надзею. Ён апусціў галаву і ціха сказаў:

— Разумею.

**(Працяг за тыдзень)**

95

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO I-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5000 Błtk F-7



 

